*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года | № 49 (785) | 6 СНЕЖНЯ 2006 г.

# 15 гадоў назад 8 снежня 1991 года ў Белавежскай пушчы дэнансавана дамова аб утварэнні СССР. Быў зроблены самы рашучы крок да незалежнасці Беларусі.

МІНІСТЭРСТВА СУВЯЗІ І ІНФАРМАТЫЗАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ (Мінсувязі)
пр-т Незалежнасці, 10, 220050, г. Мінск
Тэл. (8-017) 227 38 61, факс 227 21 57
E-mail: mpt@belpak.by



МИНИСТЕРСТВО СВЯЗИ И ИНФОРМАТИЗАЦИИ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ (Минсвязи)
пр-т Независимости, 10, 220050, г. Минск
Тел. (8-017) 227 38 61, факс 227 21 57
E-mail: mpt@belpak.by

27.11.2006 № 05-10/568

На № ______ ад ______

Старшыні Грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» Трусаву А.А., вул. Румянцава, 13, 220034, г. Мінск

**Аб выпуску паштовых марак**

Паважаны Алег Анатольевіч!

Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь разгледзела Вашы прапановы і паведамляе наступнае.

Тэматычным планам выдання знакаў паштовай аплаты на 2007 год прадугледжаны выпуск канвертаў з арыгінальнай маркай і правядзенне спецыяльных памятных гашэнняў, прысвечаных 125-годдзю з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа. На канверце разам з партрэтам будзе адлюстраваны і музей. Выпуск паштовых марак не плануецца, паколькі ў 2002 годзе да 120-годдзя Янкі Купалы н Якуба Коласа, акрамя паштовых марак, быў выдадзены паштовы блок, на якім разам з партрэтамі класікаў адлюстраваны і мясціны, дзе яны нарадзіліся.

Адначасова паведамляецца, што да 200-годдзя з дня нараджэння беларускага мастака і кампазітара Напалеона Орды плануецца выпусціць паштовы блок, канверт Першага дня і правесці памятнае гашэнне спецыяльным штэмпелем. Трэба таксама нагадаць, што ў 2004 годзе была выпушчана паштоўка з выявай помніка Напалеону Ордзе ў горадзе Іванава Брэсцкай вобласці.

Што датычыцца Вашых іншых прапаноў, то неабходна адзначыць. што ў тэматычным плане немагчыма прадугледзець нават усе найбольш значныя юбілейныя даты.

З павагай,
**Намеснік міністра Н.С. Гаўрылава.**

# 115 гадоў з дня нараджэння Максіма Багдановіча



**БАГДАНОВІЧ** Максім Адамавіч (9.12.1891, Менск - 25.5.1917), бел. паэт, перакладчык, літ.-знавец, празаік. Раннія дзіцячыя гады правёў у Гародні (1892—96), жыў і вучыўся ў Ніжнім Ноўгарадзе (1896—1908) і Яраслаўлі (1908—16). Скончыў Дзямідаўскі юрыд. ліцэй у Яраслаўлі (1916) і восенню прыехаў у Менск. Працаваў сакратаром губ. харчовай камісіі. У лют. 1917 цяжка хворы выехаў на лячэнне ў Ялту. Там памёр і пахаваны. Першы друкаваны твор - алегарычная казка-прытча «Музыка» («Наша ніва», 1907, №24). Адзіны прыжыццёвы зб. вершаў «Вянок» (Вільня, 1913). Яго паэзія развівалася ва ўмовах рэакцыі, у атмасферы вострых сац.-паліт. канфліктаў. Асн. кірунак творчасці - патрыят. служэнне сац. і нац. вызваленню бел. народа, сцвярджэнне ідэй роўнасці і братэрства, барацьба за гуманіст. ідэалы. Не прымаючы тагачаснай рэчаіснасці, уціску чалавека-працаўніка. Б. супрацьпастаўляў ім агульначалавечыя духоўныя пачаткі прыгожага і добрага.

Максім Багдановіч найлюбімейшы паэт многіх пакаленняў беларусаў, Страцім-лебедзь так любімай ім Бацькаўшчыны, адзін з выбітнейшых вяршынь Пагоні нашага нацыянальнага адраджэння.

# Там, ля Чырвонага касцёла

21 лістапада ў малой зале Палаца Рэспублікі адбылася прэзентацыя дакументальнай стужкі "Каля Чырвонага касцёла". Гэтая дата абраная стваральнікамі фільма невыпадкова. Менавіта 21 лістапада 1910 года, 96 гадоў таму, быў асвечаны гэты храм, што цяпер веліча ўзвышаецца на плошчы Незалежнасці ў нашай сталіцы.

Аўтар сцэнарыя і рэжысёр Уладзімір Арлоў сродкамі кінематографа праз маналог пробашча Чырвонага касцёла св. Сымона і св. Алены Уладзіслава Завальнюка раскрывае гледачам велічную постаць Эдварда Вайніловіча, фундатара і мецэната, на сродкі якога і быў збудаваны Чырвоны касцёл, як памяць пра сваіх заўчасна памерлых дзяцей, Сымона і Алену.

Эдвард Вайніловіч з'яўляецца ўзорам талерантных адносінаў да ўсіх канфесіяў. Ён жыў з людзьмі розных веравызнанняў экуменічна. Таму і будаваў не толькі каталіцкія, але і праваслаўныя святыні, а таксама габрэйскія сінагогі і татарскія мячэці.

У Эдварда Вайніловіча трэба вучыцца любіць сваю Бацькаўшчыну. Ён цудоўна валодаў беларускай мовай, падтрымліваў выдавецкае таварыства "Загляне сонца і ў нашаваконца", часопісы "Лучынка" і "Саха".

У выступленні рэжысёра У. Арлова на гэтай імпрэзе прагучала прапанова аб наданні імя Эдварда Вайніловіча адной з вуліц паблізу касцёла. Яна была горача падтрымана гледачамі.

***Наш кар.***

# 75 гадоў Уладзіміру Логашу



**ЛОГАШ Уладзімір Міхайлавіч**, нарадзіўся 10 снежня 1931 года ў в. Ахонава Дзятлаўскага раёна, за 40 км ад г. Ліды.

Сярэдняя школа – 1950 год. Беларускі палітэхнічны інстытут – 1955 г. Інжынер – будаўнік.

Працу пачаў у 1955 годзе у Лідскім будаўнічым упраўленні на пасадзе прараба. Будаваў Лідскую ТЭЦ, абутковую фабрыку, завод "Лідсельмаш". У студзені 1959 г. прызначаны галоўным інжынерам будаўнічага ўпраўлення.

У 1963 годзе з пачаткам будаўніцтва ў краіне аб'ектаў "вялікай хіміі" пачалося ўзвядзенне Лідскага лакафарбавага завода. Калегіяй Міністэрства будаўніцтва У. Логаш прызначаны кіраўніком гэтай будоўлі.

У 1966 годзе будаўнічае упраўленне перарасло у Будтрэст № 19. Некаторы час быў на пасадзе галоўнага інжынера трэста, а затым у канцы года – упраўляючы трэста. **З 1 снежня 1969 да снежня 1980 года старшыня Лідскага гарвыканкаму. Адзін з ініцыятараў рэстаўрацыі Лідскага замка.**

Затым на працягу 11 год, пасля пераводу ў Гародню, працаваў загадчыкам аддзела будаўніцтва абкама КПБ.

Узнагароды: Ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга, Ордэн Знак Пашаны, Чытыры Ганаровыя граматы Вярхоўнага Савета БССР, медалі.

**Шчыры беларус, актыўны сябар ТБМ, падпісчык газеты "Наша слова" з 1-га нумара да сённяшняга часу.**

# У Менску прайшла VII міжнародная навуковая канферэнцыя "Мова і соцыюм"

VII міжнародная навуковая канферэнцыя "Мова і соцыюм" прайшла 1-2 снежня на базе філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў Менску.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе БДУ, на форум сабралася каля 260 вучоных з 12 краін: Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Латвіі, Казахстана, Польшчы, Кітая, Ірана, Турцыі, Грэцыі і Славакіі. У цэнтры ўвагі даследчыкаў пытанні суаднoсінаў мовы і соцыюма, мовы і культуры, праблемы моўнай сітуацыі, моўнай палітыкі і двухмоўя, мовы сродкаў масавай інфармацыі і метадалогіі даследавання палітычнага дыскурсу.

***Таццяна ДАРАШЧОНАК, БелаПАН.***

*Вялікія настаўнікі Беларусі*

# Уладзімір Баран – педагог па прызванні

***28 лістапада 1991 года памёр дырэктар школы №1 Гародні Уладзімір Іванавіч Баран. На яго пахаванне сышліся, здавалася, усе жыхары горада. Гучалі развітальныя словы. Прызнаваліся вялікія заслугі настаўніка ў выхаванні моладзі. Выказвалася даніна павагі асобе, якая пакінула яркі след ў педагогіцы рэгіёна.***

***У некралогу абласная газета "Гродзенская праўда" адзначыла, што ў нябыт адышоў "адзін з самых таленавітых педагогаў Гродзеншчыны", Заслужаны настаўнік Беларусі, узнагароджаны ордэнамі Леніна, Знак Пашаны, медалямі "За працоўную доблесць", "За працоўную адзнаку", знакам "Выдатнік народнай асветы". Дэпутат гарадскога Савета многіх скліканняў.***

***Прабеглі неўпрыкмет гэтыя 15 гадоў. Нядаўна мне пашчасціла праглядзець архіў Уладзіміра Іванавіча. Дырэктар школы пакінуў запісы па гісторыі школы, навучальным працэсе, рабоце з маладымі педагогамі, шматлікія метадычныя распрацоўкі, працоўнай падрыхтоўцы вучняў...***



Уладзімір Баран жыў школай і яе праблемамі. Свае педагагічныя напрацоўкі друкаваў у газетах. Яго роздум застаецца актуальным і цяпер. Мне, напрыклад, было надзвычай цікава чытаць, як у Гародні пачыналася працоўнае навучанне школьнікаў. Пазней гэты досвед быў пераняты ўсімі школамі Савецкага Саюза. Якраз у 1960 годзе я пайшоў у школу ў адным з раённых цэнтраў Менскай вобласці. У старэйшых класах мы штотыдзень на ўроках працы займаліся ў майстэрнях. Сваімі рукамі рабілі табурэткі, выконвалі простыя вырабы з металу. Былі дрэваапрацоўчыя і такарныя станкі.

Хіба тады было ў галаве, што прывіццё вучням рабочай кемлівасці пачыналася ў Гародні! Мінула звыш 40 гадоў з тых урокаў працы, а жыццё падказала, што не дарэмна вучылі нас, падлеткаў, майстраваць. Хіба гэта мужчына, які не можа дыван на сцяне прыладзіць ці адрамантаваць працейшую паломку крана на кухні?..

Нататкі дырэктара вяртаюць у тыя часы, калі ідэяй працоўнага навучання вучняў быў прасякнуты ўвесь падначалены яму педагагічны калектыў школы. Газета "Народная асвета" (студзень 1963 года, №1) змясціла публікацыю Уладзіміра Барана "Праца – найлепшая школа выхавання". Аўтар адзначае, што працоўнае навучанне добра вядуць настаўнікі Казбярук, Станцэля, Громава, Кажэўнікава, В.Э. Гарэцкі. Школа была ўдзельнікам ВДНГ СССР. Вучні Віктар Васількоў, Алег Гудыма, Валеры Клімін, Юры Рымацкі ўзнагароджаны медалямі і прэміяваны каштоўнымі падарункамі. Два экспанаты адабраны камісіяй Міністэрства асветы Беларусі на выстаўку ў ЗША.

Таксама быў змешчаны фотаздымак выкладчыкаў вытворчага навучання СШ №1 Е.Л.Дровіч, Ю.Д.Кліміна, В.І.Бельскага (завуч), Чарняўскага, І.Г. Мельнічук.

У 9-х –11-х класах вытворчаму навучанню адводзілася 10-12 гадзін у тыдзень. Настаўнікі прадметаў палітэхнічнага цыклу А.В. Ермаловіч, А.Г. Дзянішчык, Е.П. Старавойтава, фізікі Е.С. Шустэр, В.В. Мілінкевіч, хіміі – О.Г. Дарожкіна, О.П. Мінеева, П.С. Грышан умеюць знайсці ўзаемасувязь паміж тэорыяй і практыкай. Назіранне паказала, што школьнікі, хто добра працуе, тыя і вучэбны матэрыял засвойваюць выдатна. У мінулым 1962 годзе з 32 выпускнікоў было 7 медалістаў, 23 паступілі ў ВНУ. Астатнія працуюць па абранай імі прафесіі.

***Дырэктар Гарадзенскай СШ №1 імя С.М.Кірава Уладзімір Іванавіч Баран нарадзіўся ў 1908 г. у в. Пілюкі Гарадзенскага р-на. У 1925 г. закончыў Верцялішскую школу, Гарадзенскую настаўніцкую семінарыю (1931), гуманітарны факультэт Варшаўскага універсітэта (1935). Працаваў настаўнікам і выхавацелем ў дзіцячым доме Варшавы пад кіраўніцтвам вядомага педагога Януша Корчака; у ліцэі імя С.Баторыя (1931-1939); у Гарадзенскай гімназіі імя А.Міцкевіча, СШ № 1 Гародні (1939-1941). Завуч СШ № 7 Гародні (1944-1950). Дырэктар школы № 1 Гародні (1950-1972).***

*(З біяграфіі Ў. І. Барана)*

Некалькімі гадамі раней адбылася рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя "Вытворчае навучанне і вытворчая праца ў школе" (1960) у сувязі з перабудовай работы школ. Даклады і выступленні склалі выданне навукова-даследчага Інстытута педагогікі Міністэрства асветы БССР (1961). Сярод іншых быў змешчаны артыкул У.І. Барана "Шляхі ажыццяўлення вытворчага навучання".

Ён паведамляў, што на падставе глыбокага асэнсавання асноў навукі і агульнай падрыхтоўкі школьнікаў да жыцця ў школе рэалізуецца праграма "Ручная праца ў 1-4 класах", "У школьнай майстэрні і на прышкольным доследным участку (5-7 класы)", "Вытворчае навучанне ў 9-11 класах".

Ставала і праблем. Напрыклад, вядзенне прадмета ручной працы выклікала цяжкасці, бо настаўнікі не мелі практычнага досведу. Праводзілі семінары ў канцы летніх канікул па асноўных відах работ, якія неабходна выконваць вучням па ручной працы.

Звярталі ўвагу на неабходнасць прывіць школьнікам навыкі захоўваць у парадку рабочае месца, эканомна расходаваць матэрыялы. Распрацавалі форму і методыку выкладання ручной працы. Напачатку гаварылі вучням аб значэнні работы. Паказвалі выраб і каментавалі яго характарыстыкі. Дэманстравалі нават рухі работніка, яго постаць у час работы, вучылі культуры працы, тэхніцы бяспекі.

Высокай культуры працы дасягнула настаўніца Марыя Філіпаўна Бялуга.

Праца павінна быць карыснай для грамадства. Для Сіўкоўскай школы Скідальскага раёна вырабілі 8 сталярных і 3 слясарныя варштаты. Асвоілі выпуск акцябрацкіх зорачак, абсталявання для геаграфічных пляцовак, многіх відаў сталярнага і слясарнага інструмента. Для падшэфнага дзіцячага садка № 1 і дзетсада № 3 піянеры зрабілі арэлі, санкі, інвентар для агарода.

Пад кіраўніцтвам настаўніка В.І. Бельскага школьнікі вырабілі шэраг складаных станкоў па апрацоўцы драўніны і металаў, у тым ліку чатыры такарныя станкі па дрэву, цыркуляркі, фрэйсмусна-фуговачны станок, фрэзерны па дрэву, свідравальны па металу, ролікавыя нажніцы.

Базавай для вытворчага навучання вучняў старэйшых класаў стаў Гарадзенскі завод бытавых прыбораў. Добрыя адносіны склаліся з яго дырэктарам В.І. Раманенкам, галоўным інжынерам С.С. Цітовым.

Досвед паказвае, піша У.І.Баран, што школьнік, прылучаны ў якасці вучня да рабочага завода, пасіўны. Гэта не той шлях, па якім трэба ісці. Адмовіліся і ад думкі стварыць вучнёўскую змену. Выхад - у стварэнні вучэбнага цэха пры школе. Зрабілі прыбудоўку да вучэбна-вытворчых майстэрняў. Там стварылі цэхі – сталярны (25 варштатаў і 9 станкоў для механічнай апрацоўкі дрэва). Слясарны – 25 рабочых месцаў. Механічны – 15 станкоў. Ёсць таксама цэхі кавальска-зварачны, гальванічны, кабінет электратэхнікі і машыназнаўства.

Досвед чатырох гадоў падказаў, што трэба выбіраць для выкладання школьнікам прафесіі шырокага профілю, якія развіваюць дастатковы палітэхнічны кругагляд, адкрываюць шлях у розныя галіны народнай гаспадаркі.

З квартальнага плана завода бытавых прыбораў выбіраецца такая наменклатура вырабаў, якая лепш адпавядае вучэбнай праграме ў пэўны перыяд навучання. Дэталі, зробленыя вучнямі, прымала АТК завода. Кожны вучань меў спецыяльны дзённік, дзе адзначаў зробленыя за дзень вырабы.

Вучоба ў майстэрнях праходзіла цягам двух гадоў. У 11-м класе замацоўваліся навыкі на штатных рабочых месцах завода.

Праз шэфаў-завадчан СШ атрымала заказ ад Гарадзенскай мэблевай фабрыкі на выраб металічных трымальнікаў для драўляных ложкаў. Школьнікі вынайшлі шаблоны для свідравання адтулін, вырабілі штампы. Гэта дазволіла палепшыць якасць вырабу дэталяў, паскарэнне самога вытворчага працэсу.

***Дырэктар СШ №1 імя Кірава Баран Уладзімір Іванавіч прысвяціў педагагічнай дзейнасці 35 гадоў жыцця. Глыбока ведае педагагічную працу, працалюбівы, стварыў добры педагагічны калектыў. Дзякуючы правільнаму кіраўніцтву з боку дырэкцыі, школа з адстаючых стала адной з лепшых у Гарадзенскай вобласці.***

***З 1962 года школа зацверджана загадам аблАНА апорнай школай вобласці.***

***Баран У.І. спрактыкавана кіруе работай настаўнікаў. Высокая патрабавальнасць спалучаецца з педагагічнай тактоўнасцю. Валодае культурнымі навыкамі, якія дазваляюць станоўча ўплываць на ўсё жыццё школы, свабодна рэгуляваць, накіроўваць, змяняць гэтае жыццё.***

***Яму ўласціва пачуццё новага, уменне скарыстоўваць новае, што дазваляе рухаць школу наперад, падтрымліваць тое новае і выкарыстоўваць у поўнай меры. Асабліва вялікую ўвагу надае рабоце маладых настаўнікаў і тых, хто сустракае цяжкасці ў вучэбнай і выхаваўчай рабоце. Раіць, падтрымлівае, робіць заўвагі ў правільнай форме.***

***Як выкладчык геаграфіі выдатна ведае свой прадмет. Дасканала валодае методыкай выкладання. Урокі праходзяць на высокім навуковым і ідэйнапалітычным узроўні. Карыстаецца рознымі метадамі работы. Па свайму прадмету ён заўсёды дабіваецца поўнай пасяховасці.***

***Неаднаразова дзяліўся досведам работы на гарадскіх і абласных педагагічных чытаннях, на рэспубліканскіх навукова-педагаічных канферэнцыях. Многа разоў запрашаўся для выступлення на курсах Інстытута ўдасканалення настаўнікаў. Яго артыкулы друкаваліся ў газетах, часопісах і спецыяльных зборніках.***

***Актывіст грамадскага жыцця. Старшыня Гарадзенскага Савета садзейнічання сям'і і школе. Член Таварыства "Веды". З 1948 па 1962 гады і з 1965 года па гэты час выбіраўся дэпутатам гарадскога Савета.***

***Патрабавальны да сябе, чуллівы да іншых, надзвычай дысцыплінаваны, сціплы. Аўтарытэтны сярод настаўнікаў, бацькоў і школьнікаў.***

*(З характарыстыкі Ў.І. Барана, 1967 г.)*

У зборніку "Працоўнае і вытворчае навучанне ў школах БССР" (Мн., 1963 г.) Уладзімір Іванавіч змясціў допіс "Вытворчае навучанне і сувязь яго з асновамі навукі". Удакладняе, што ў школе вытворчае навучанне праводзіцца па прафесіях слесар-інструментальшчык, токар-універсал, сталяр і швачка індывідуальнага шыцця летняй сукенкі.

Практыка спалучаецца з тэорыяй. Фізік Е.С. Шусцер ўвязвае матэрыялы 9-11-х класаў з праграмай вытворчага навучання. Настаўніцы хіміі Д.П. Траццякова і О.П. Мінаева прыводзяць прыклады з практыкі нашых шэфаў — гальванічнага цэха завода бытавых прыбораў. Матэматыкі М.Н. Казённава, І.М. Мурына і выкладчык вытворчага навучання В.І.Бельскі склалі з вучнямі старшых класаў больш 100 задач з вытворчым зместам, якія рашаюцца на ўроках матэматыкі. Настаўнік чарчэння Н.М.Крэчка імкнецца, каб школьнікі самастойна на ўроках рабілі чарцяжы, звязаныя з вытворчым навучаннем.

Аб сур'ёзным стаўленні дырэктара школы да працоўнага выхавання школьнікаў сведчыць, напрыклад, яго распрацоўка тэмы "Экскурсія на прамысловае прадпрыемства". Педагог указвае, што такая экскурсія патрабуе асабліва ўважлівай падрыхтоўкі (на прадпрыемстве асаблівы рух, даводзіцца адцягваць ўвагу рабочых ад працы, трэба захоўваць павышаную асцярожнасць, каб не атрымаць траўму). Карысць ад экскурсіі будзе тады, калі школьнікі пабачаць сам працэс вырабу прадукцыі.

Уладзімір Іванавіч распрацоўвае прыкладную схему падрыхтоўкі настаўніка. Трэба пабыць на фабрыцы некалькі разоў да экскурсіі, разабрацца ў вытворчасці, пагаварыць са спецыялістамі (галоўным інжынерам, майстрамі асобных цэхаў), дамовіцца, якія тлумачэнні трэба даць вучням. Абавязкова трэба паглядзець адпаведную літаратуру, падабраць папулярныя кнігі на тэмы вытворчасці для школьнікаў.

Вучні таксама павінны быць падрыхтаваны да экскурсіі. Задоўга да прызначанай даты адказны педагог гутарыць са школьнікамі, выказвае асноўныя задачы экскурсіі, указвае на якія моманты трэба звярнуць увагу, знаёміць з агульным планам экскурсіі, дае заданні створаным звенням: якія кнігі пачытаць, якія наглядныя дапаможнікі падрыхтаваць, у якіх пытаннях глыбей разабрацца.

Само правядзенне экскурсіі таксама не пераўтвараецца ў механічнае назіранне і слуханне. У дзень экскурсіі група школьнікаў наведвае дырэктара і галоўнага інжынера прадпрыемства. Спецыялісты знаёмяць з гісторыяй фабрыкі, кажуць пра лепшых работнікаў. Тлумачаць, адкуль паступае сыравіна, якія тэхналагічныя аперацыі праходзіць гэтая сыравіна, куды ідзе гатовая прадукцыя, перспектывы развіцця вытворчасці. Затым вучні па звеннях наведваюць цэхі, культурныя ўстановы, глядзяць побыт рабочых і службоўцаў, занатоўваюць пабачанае, калі можна, фатаграфуюць.

Але і на гэтым не пастаўлена апошняя кропка. Для арганізацыі апрацоўкі матэрыялаў трэба выявіць сувязь прадпрыемства з раёнамі пастаўкі сыравіны, шляхі рэалізацыі прадукцыі (падрыхтоўка карты). Належыць падабраць розныя віды сыравіны па іх якасці, скласці схему тэхналагічнага працэсу апрацоўкі сыравіны, мець узоры прадукцыі работы кожнага цэха і ўзоры прадукцыі прадпрыемства, разумець перспектывы развіцця прадпрыемства ў бліжэйшы час, ведаць быт і ўмовы работы прадпрыемства.

**У 1945 годзе школа выпусціла сваіх першых пасляваенных гадаванцаў. Людміла Чарвінская і Яўген Саўко закончылі школу з залатым медалём. У верасні 1955 года школа атрымала першае прасторнае памяшканне з актавай і фізкультурнай заламі, майстэрнямі.**

